Узвышш

# ПАСТАНОВА

**агульнага сходу беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня „ЎЗВЫШША“ пра адмысловыя літары для згукаў „дз“ і „дж“.**

У № 4 (10) часопісі „Узвышша“ за 1928 год агалошаны артыкул Уладзімера Дубоўкі „Проэкт літар для згукаў „дз“ і „дж“. У дадатак да ранейшых матар'ялаў, часткова агалошаных і ў працах беларускае акадэмічнае конфэрэнцыі, у гэтым артыкуле з пераканаўчаю яснасьцю і яскравасьцю была даведзена патрэбнасьць замены прымітыўнага азначэньня згаданых згукаў цераз дзьве літары ў кожным паасобным выпадку—аднэй. Зробленыя паводле Дубоўкавага проэкту літары ужываліся ў апошніх нумарох нашае часопісі, у аддзеле „Культура мовы“ і выклікалі да сябе самыя прыхільныя адносіны з боку чытачоў. Зважаючы на тое, што гэтыя літары зьяўляюцца экономнымі ў друку, лёгкімі для ўспрыйманьня, а сама ідэя стварэньня для паасобных згукаў (афрыкат) адмысловых літар ня выклікала супярэчак ні з чыйго боку, агульны сход „Узвышша“ пастанаўляе:

1. Пачынаючы ад № 2 за 1929 год усю часопісь „Узвышша“ друкаваць з новымі літарамі цалкам, выкінуўшы з ужытку перадачу згукаў „дз“ і „дж“ цераз дзьве літары.

2. Даручыць рэдакцыі часопісі паклапаціцца пра поўнае дапасаваньне новых літар да ўжыванага ў часопісі шрыфту (вышыня літар і г. д.).

3. Зьвярнуцца да ўсіх беларускіх часопісяў з прапановаю ўвесьці спробнае друкаваньне з новымі літарамі, каб даць магчымасьць азнаёміцца з імі нашаму настаўніцтву і шырокаму колу грамадзтва.

4. Зьвярнуцца да беларускага дзяржаўнага выдавецтва з прапановаю выдрукаваць проэкт паасобнай брошурай.

5. Даручыць рэдакцыі часопісі „Ўзвышша“ ўважна зьбіраць матар'ял, датычны новых літар (заўвагі чытачоў і г. д.).

Адначасова агульны сход складае сваю падзяку ўраду Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі ў асобе старшыні Савету Народных Камісараў тав. Міколы Галадзеда, дзякуючы моральнай і матэр'яльнай дапамозе якога згуртаваньню ўдалося правесьці проэкт да практычнага ажыцьцяўленьня.

Старшыня *Кузьма Чорны*

Намесьнік старшыні *Крапіва*

Сэкрэтар *Адам Бабарэка*

1929 г.